


# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА-ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 14 (42), 12—18 траўня 1993 г. Цана 3 рублі


*Прагаласавалі за цынкавыя труны*

## Мяркуюць пра людзей па іх учынках

Большасць народных дэпутатаў, што прадстаўляюць у парламенце выбаршчыкаў Віцебскай вобласці прагаласавала (як, дарэчы, і амаль увесь Вярхоўны Савет) за ваенны саюз з Расеяй, Казахстанам, краінамі Сярэдняй Азіі ды Закаўказзя.

Такім чынам, беларускіх грамадзян можна павіншаваць з навінаю: народным выбраннікам падалося недастаткова Афганістана і яны дружна паднялі рукі за саюз вайны. Цяпер, мусіць, хопіць звычайнай позвы ў ваенкамат, каб нашых хлопцаў (а мо ў некаторых выпадках і дзяўчат) адправіць на крывавую разню ў любы пункт СНД?

Ніжэй мы публікуем прозвішчы тых, хто прагаласаваў за ганебнае рашэнне Вярхоўнага Савета РБ. Зрабілі гэтае якраз тыя, хто ўсё сваё свядомае кампартыйнае жыццё ўзнімалі дагары рукі на сходах, пленумах, канферэнцыях, горача падтрымлівалі палітыку партыі й урада.

Яны ж, трапіўшы ў парламент дзякуючы клопату той жа ленінскай камуністычнай, старанна адпрацоўваюць давер партыі.

Запомні, чытач, прозвішчы людзей, якія бяздумна і цынічна выказаліся за ўдзел грамадзян сваёй краіны ў міжнародных жандарскіх акцыях, у якіх воін-беларус разам з расійскім ці ўзбекскім жаўнерам пойдзе забіваць таджыка альбо грузіна. І тады ён не будзе разважаць над лёсам Бацькаўшчыны, яе каштоўнасцяў—духоўных і матэрыяльных, што знішчаюцца, прадаюцца за бясцэнак ці раскрадаюцца посткамуністычнай наменклатурай. Застацца б жывым!

Спужаўшыся правала маскоўскага путчу, Вярхоўны Савет падтрымаў амаль два гады назад суверэнітэт рэспублікі, прагаласаваў за нацыянульную сімволіку, выказаўся за прыпыненне дзейнасці КПБ. Зараз жа дэпутаты, выступіўшы за ваенны саюз, хочуць скасаваць незалежнасць і нейтралітэт Беларусі, спрабуюць вярнуць таталітарныя парадкі, ізаляваць краіну ад цывілізаванага свету, супрацьпаставіць РБ суседзям, што не ўваходзяць у СНД.

Крывавыя дзеянні неакамуністаў і рускіх нацыяналістаў у Маскве на Першага траўня і рашэнне беларускага парламента пра далучэнне да Дагавора аб калектыўнай бяспецы—звенні аднаго ланцуга, у які імкнуцца нас закаваць.

Аднак часы «скованных одной цепью» мінулі. Каб яны зноў ніколі не вярнуліся, народ павінен выказацца на датэрміновых выбарах, сказаць сваё слова «за» ці «супраць» сучаснага Вярхоўнага Савета.

Вось прозвішчы народных дэпутатаў ВС РБ ад Віцебскай вобласці, якія галасавалі за далучэнне Беларусі да Дагавора аб калектыўнай бяспецы.

**Аляксандр Пятровіч Авечкін** (Рэспубліканскае таварыства ветэранаў вайны й працы) —старшыня Віцебскага гарсавета ветэранаў, Герой Сацыялістычнай працы, былы генеральны дырэктар ВА «Маналіт».

**Іван Іванавіч Авін** (Лёзненская выбарчая акруга № 152)—былы першы сакратар райкама КПБ, які зараз жыве ў Менску. Працуе сакратаром пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета.

**Уладзімір Паўлавіч Андрэйчанка** (Верхнядзвінская выбарчая акруга № 144)—былы першы сакратар райкама КПБ. Жыве ў Віцебску. Працуе намеснікам старшыні аблвыканкама.

**Таццяна Міхайлаўна Анісенка** (ад Беларускага таварыства глуханямых),—намеснік дырэктара Віцебскага ВВП.

**Яўген Міхайлавіч Бачароў** (Віцебская-Праудзінская акруга № 179)—былы камандуючы Віцебскай дэсантнай дывізіяй, а зараз—пагранічнымі войскамі РБ. Жыве ў Менску.

**Міхаіл Уладзіміравіч Васілеўскі** (Чашніцкая акруга № 163)—старшыня райвыканкама.

**Міхаіл Мікалаевіч Вяславухаў** (Бабініцкая акруга № 154) —старшыня райвыканкама.

**Мечыслаў Іванавіч Грыб** (Віцебская-Савецкая акруга № 178)—былы начальнік УУС аблвыканкама, цяпер—старшыня пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета. Жыве ў Менску.

**Мікалай Іванавіч Дзямянцей** (Ушацкая акруга № 162)—колішні старшыня Прэзідыума ВС БССР. Зараз пенсіянер.

**Мікалай Фёдаравіч Дамашкевіч** (Сенненская акруга № 160) —былы першы сакратар райкама КПБ. Працуе ў кантрольнай палаце РБ.

**Іван Іванавіч Жыдзяляеў** (Аршанская-Ленінская акруга № 169)—кіраўнік БМТ-18.

**Мікалай Іванавіч Жураўлёў** (Рэспубліканскае таварыства ветэранаў вайны й працы) —былы старшыня Наваполацкага Савета ТВВОД. Цяпер намеснік пастаяннай камісіі ВС РБ.

**Мікалай Фядотавіч Зайцаў** (Рэспубліканскае таварыства ветэранаў вайны й працы)—старшыня Віцебскага абласнога савета ветэранаў.

**Георгій Георгіевіч Какарэка** (Аршанская-Задняпроўская акруга № 170)—генеральны дырэктар ільнокамбіната.

**Уладзімір Уладзіміравіч Кудлаш** (Талачынская акруга № 161)—былы першы сакратар ЦК ЛКСМБ. Жыве ў Менску. Зараз—супрацоўнік Рэспубліканскага камітэта па дзяржмаёмасці пры СМ РБ.

**Аляксандр Яўсеевіч Кузмянкоў** (Полацкая сельская акруга № 156)—былы дырэктар эксперыментальнай базы «Ветрынскі». Цяпер жыве ў Віцебску, працуе дырэктарам аб'яднання па агародніцтву ў аблсельгасхарчы.

**Уладзімір Панцелеевіч Кулакоў** (Міёрская акруга № 153)—старшыня аблвыканкама.

**Генадзь Міхайлавіч Лавіцкі** (Лепельская акруга № 166)—намеснік старшыні КДБ РБ. Жыве ў Менску.

**Вячаслаў Віктаравіч Любавіцкі** (Віцебская-Першамайская акруга № 184)— былы пракурор Першамайскага раёна г. Віцебска. Зараз пракурор Берасцейскай вобласці.

**Пётр Захаравіч Мінчанка** (Рэспубліканскае таварыства ветэранаў вайны й працы)—старшыня Аршанскага савета Таварыства ветэранаў вайны й працы.

**Анатоль Андрэевіч Мардашоў** (Віцебская сельская акруга № 145)—былы намеснік старшыні аблвыканкама. Жыве ў сталіцы. Работае старшынём Камітэта па нафце і хіміі пры Савеце Міністраў РБ.

**Вадзім Андрэвіч Мядзялец** (Шаркоўшчынская акруга № 164)—старшыня калгаса «Першае Мая».

**Уладзімір Мяфодзьевіч Новікаў** (Докшыцкая акруга № 150)—старшыня калгаса «Зара камунізму».

**Анатоль Ігнацьевіч Піскуноў** (Беларускае таварыства сляпых)—старшыня абласнога праўлення БТС.

**Яўген Іванавіч Радзецкі** (Падсвільская акруга № 148)—былы другі сакратар абкама КПБ. Знаходзіцца на пенсіі, але працуе ў аблсельгасхарчы.

**Анатоль Андрэевіч Сіўчыкаў** (Бешанковіцкая акруга № 142) —былы першы сакратар райкама КПБ. Зараз узначальвае малое прадпрыемства.

**Мікалай Іванавіч Сцепаненка** (Віцебская-Чкалаўская акруга № 185)—былы загадчык аддзела ўпраўлення аховы здароўя аблвыканкама. Жыве ў Менску. Працуе намеснікам міністра аховы здароўя РБ.

**Мікалай Аляксеевіч Федарчук** (Віцебская-Усходняя акруга № 180)—намеснік старшыні аблвыканкама.

**Іван Іванавіч Цярэшка** (Дубровенская акруга № 151)—былы першы сакратар райкама КПБ. Цяпер пражывае ў Менску. Работае намеснікам старшыні пастаяннай камісіі ВС РБ.

**Уладзімір Іванавіч Цялежнікаў** (Полацкая-Баравухінская акруга № 171)—дырэктар камбіната будматэрыялаў.

**Васіль Васільевіч Чэпік** (Варапаеўская акруга № 158) —былы першы сакратар райкама КПБ. Зараз старшыня райвыканкама.

**Уладзімір Васілевіч Чувічка** (Беларускае таварыства інвалідаў)—старшыня Цэнтральнага праўлення БТІ.

**Баляслаў Піусавіч Шылько** (Пастаўская акруга № 157)—старшыня калгаса «Дружба».

**Дэпутат аблсавета, выкладчык СПТВ-59 Б. МАЦВЕЕЎ.**

## НА 6-ці старонках:

- ПАЗЬНЯК: СІТУАЦЫЯ ПАРАДАКСАЛЬНАЯ
- РЭНАМЕ РЭАНІМЭ (ІМПЕРЫІ)
- КРЫХУ ПРА МАСТАЦТВА
- КУПЛЮ... АБМЯНЯЮ... ПРАДАМ...



Гора маці бязмежнае.

## ДЗЕЛЯ АДНАЎЛЕННЯ

Пачаўся новы сезон археалагічных раскопак. Малое дзяржаўнае прадпрыемства «Віцебскпраектрэстаўрацыя» праводзіць іх з мэтаю комплекснага навуковага даследавання помніка архітэктуры канца XVIII ст.—саляных складоў у Задзвінні. Плануецца вывучыць стан падмуркаў, ступень захаванасці, старажытнага добраўпарадкавання прылягаючай тэрыторыі.

Працягнуцца работы і па далейшаму даследу падмуркаў Уваскрасенскай царквы.

**М. ВАЛАЧОБНІК.**

# ЗДРАДА—СПОСАБ ІСНАВАНЬНЯ

З. Пазьняк

**Гэты артыкул З. Пазьняка—не апошні, які рэдакцыя хоча прадставіць увазе чытача. У наступным нумары мы змесцім меркаванні старшыні сойму БНФ пра мажлівы ваенны саюз Беларусі з некаторымі краінамі СНД.**

Камуністычная здрада на нашай зямлі выяўляе пермаментны характар і абумоўленая тым, што камунізм не мае ніякага дачыненьня да Беларусі і беларускага народа. Гэта чужародная зьява, прынесеная на Беларусь з Расеі ў часе 1-й сусьветнай вайны бальшавізаваным расейскім войскам. У канцы 1918 года бальшавіцкія войскі ўварваліся ў Беларускую Народную Рэспубліку, вязучы з сабой у абозе калабаранцкі ўрад Жылуновіча і іншых нацыянал-камуністаў. 1-га студзеня 1919 года аб'явілі аб стварэньні марыянетачнай бальшавіцкай БССР, якую праз два месяцы самі ж і ліквідавалі. Потым у 1920 годзе вымушаныя былі яе зноў аднавіць галоўным чынам па той прычыне, што беларускія камуністы-калабарацыяністы з прыдуманага «ўраду» былі дрэннымі здраднікамі—трымаліся за Беларусь, за сялянаў ды культуру. Прыйшлося іх бальшавікам неўзабаве ўсіх рэпрэсаваць і накіраваць на той сьвет.

Наступнае пакаленьне бальшавіцкіх халуёў на Беларусі хутка ўцяміла, як трэба сябе паводзіць. Здрадніцтва было даведзенае да паталагізму—прадавалі Бацькаўшчыну, веру, сяброў, бацьку, матку, мову, культуру, гісторыю, гонар. Спаборнічалі выслужыцца ў нізасьці, поўзалі на каленях, аддана плявалі на свой род, а ў канцы ўсяроўна атрымлівалі кулю ў патыліцу, так і не зразумеўшы, «за што». Нашчадкі тых халуёў кіруюць цяпер. Эстафета прадаўжаецца.

Год назад паміж шматлікімі грамадзкімі арганізацыямі Беларусі (акрамя камуністаў) і кіруючымі структурамі было падпісанае Антыкрызіснае пагадненьне аб аб'яднаньні намаганьняў на абарону суверэнітэту ў выніку пагрозы незалежнасьці Беларусі. Пад пагадненьнем стаяць подпісы В. Кебіча, Э. Шыркоўскага, міністраў, дзяржаўных дзеячаў. Цяпер аказалася, што гэтыя людзі самі сталі ініцыятарамі пагрозы незалежнасьці Беларусі.

Цікава пачытаць выступы некаторых камуністаў-дэпутатаў Вярхоўнага Савета 26—27 ліпеня 1990 г., калі прымалі палажэньні аб імкненьні да нейтралітэту і бязьядзернасьці Беларусі ў Дэкларацыі аб незалежнасьці. Які напышлівы казённы стыль, якая падтрымка! Цяпер гэтак жа дэкламуюць навыварат, супраць нейтралітэту.

У сярэдзіне сьнежня 1992 года ў Вярхоўным Савеце прымалі Ваенную дактрыну Рэспублікі Беларусі. Міністр абароны і іншыя генералы пафасна дэклараваалі вернасьць Дэкларацыі аб незалежнасьці і курсу на нейтралітэт. Так і запісалі, што Рэспубліка Беларусь «праводзіць самастойны курс у галіне ваеннай палітыкі, імкнецца да пераходу ў статус нейтральнай, бязьядзернай дзяржавы.., узаемадзейнічае з зацікаўленымі дзяржавамі рэгіёна па стварэньні бязьядзернага пояса ад Балтыйскага да Чорнага мораў».

Прайшло тры месяцы і міністр разам з генераламі, вокам не міргнуўшы, засьпявалі ўсё наадварот. А ўявім, што ў Расеі пачаліся грамадзянскія закалоты і банды бальшавікоў зноў напалі на Беларусь. Як паводуць сябе гэткія генералы і гэткі міністр?

16 сьнежня 1992 г. Вярхоўны Савет прыняў Пастанову, дзе даручыў Сауміну «да 1-га сакавіка 1993 года: прадставіць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапановы па прывядзеньні заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусі ў адпаведнасць з Ваеннай дактрынай Рэспублікі Беларусі».

Нічога выканана не было. Замест выкананьня В. Кебіч, падыгрываючы расейскім камуністам, выступіў за ваенны саюз—калектыўную бясьпеку з Расеяй, супраць нейтралітэту Беларусі. (А значыць, супраць Канстытуцыйнага закона, Ваеннай дактрыны і нейтральнай міралюбнай палітыкі нашай дзяржавы). Хіба гэта не здрада?

Сітуацыя ў Беларусі склалася дрэнная і парадаксальная. Ва ўладзе новай незалежнай дзяржавы засталіся старыя структуры кіраваньня, людзі, якія заўсёды былі шалёнымі ворагамі беларускай незалежнасьці, дзяржаўнасьці, мовы, культуры, беларускай нацыі. Для сьпелай нацыі і нармальнага нацыянальнага сьвядомага грамадзтва такое становішча немагчымае. Альбо парламент і ўрад адстойвалі б дзяржаву і незалежнасьць, альбо гэты парламент і ўрад доўга б не праіснавалі. Толькі на Беларусі ў хворым грамадзтве магчымае існаваньне антынацыянальнага ўраду і Вярхоўнага Савета.

У травені 1992 г. неверагоднымі намаганьнямі дэмакратычных сілаў Беларусь атрымала унікальную магчымасьць правесьці рэферэндум аб роспуску Вярхоўнага Савета і нечарговых выбарах. Адзіны і своечасовы гістарычны шанц не быў выкарыстаны па адной прычыне, якая мае два бакі: крымінальнасьць улады і апатыя грамадзтва да ўласнага лёсу. Усё гэта нагадвае аднаго шыбеніка з казкі братоў Грым, які быў такі лянівы, што паляняваўся нават пад шыбеніцай абрэзаць вяроўку на шыі, каб не павіснуць.

Не буду апісваць псіхалогію саўковага грамадзтва і тым больш кіраўніцтва, што парушае законы. Істотна іншае. Растаптаўшы ў безвыхадным адчаі рэферэндум, закон, Канстытуцыю, правы асобы і не спаткаўшы супраціўленьня ў народзе, камуністычная наменклатура канчаткова пазбавілася страху і зразумела, што ўсё можна, усё дазволена. З гэтага часу і пачалася адкрытая палітыка здрады, накіраваная на зьнішчэньне незалежнасьці, нейтралітэту, дзяржаўнасьці, магчымасьці беларускага культурна-нацыянальнага адраджэньня. Этапы гэтай здрады—маскоўскія ваенныя пагадненьні 20 ліпеня 1992 года, эксгумацыя КПСС—КПБ, рашэньне аб далучэньні да ваеннага дагавора пра калектыўную бясьпеку. Далейшыя планы наменклатура не хавае. Палітыка яе разьвіваецца па шляху рэгрэсу. Будуць перагледжаныя і адмененыя ўсе мінімальна-дэмакратычныя і дзяржаўна-незалежніцкія рашэньні Вярхоўнага Савета, прынятыя дзякуючы стараньням Апазіцыі БНФ. Будзе прадаўжацца стварэньне штучнай галечы на Беларусі. Вынікі яе будуць цяжкімі. Спраўджваюцца самыя дрэнныя прагнозы, што наменклатурна-камуністычнае кіраўніцтва пратрымаецца на Беларусі да чарговых выбараў і новы парламент прыйдзе на галавешкі.

Гэта найбольш балюча ўсьведамляць, бо за паўтара гады мафіёзнага кіраваньня Беларусь ужо страціла асноўныя свае вартасьці, магчымасьці і перавагі ў эканоміцы. Я ўжо не кажу пра рэгрэс маралі і культуры. Пацьвярджаецца агульнавядомая ісьціна: разьвіваецца і багацее не тая краіна, дзе ёсьць золата і кілбаса, а тая, дзе ў людзей ёсьць нацыянальная годнасьць, дзе цэняць свабоду.

Зрэшты тэарэтычна ў беларусаў ёсьць яшчэ адзін шанц—гэта распусьціць Вярхоўны Савет сілай, склікаць Устаноўчы Сойм, выбраць урад, прыняць Канстытуцыю, закон аб выбарах і правесьці свабодныя выбары. Гэтыя дзеяньні ў дадзеным становішчы былі б цалкам прававымі і легітымнымі. Нагадваю, што, калі парламент у пытаньні пра давер да сябе парушае правы людзей, Канстытуцыю, закон і ўзурпуе такім чынам уладу, народ мае права патрабаваць яго адстаўкі любымі спосабамі. Аднак у Беларусі няма ніякай сілы, гатовай на энергічныя захады. І, дадам, ніколі не будзе з прычыны псіхалагічнай і арганізацыйнай нездольнасьці цяперашніх беларусаў на рашучыя самастойныя ініцыятывы ва ўласных інтарэсах. Гэты шлях практычна выключаны ў бліжэйшай гісторыі. Хіба толькі нейкія надзвычайныя абставіны (што малаверагодна) зрушаць зь мейсца людзей. Аднак становічага выніку можа дасягнуць толькі рух нацыі, а не пратэст стыхійна сабраных грамадзянаў.

Перад абліччам здрады аднак ёсьць яшчэ рэсурсы ў нашым грамадзтве. Трэба мацаваць дэмакратычныя арганізацыі, і, перш за ўсё, Народны Фронт. Мацаваць не толькі падтрымкай на словах, але і асабістым удзелам, маральна, матэрыяльна, арганізацыйна, палітычна. Ёсьць яшчэ ў здаровых сілаў шанц дапамогі, шанц супрацоўленьня, шанц удзелу і салідарнасьці. Ці будзе ён выкарыстаны—не бяруся сьцьвярджаць. Занадта хворы наш народ. Але іншага шляху як здаравець, працаваць, ствараць, супраціўляцца здрадзе і змагацца за волю—іншага шляху дзеля разьвіцьця і сьцьвярджэньня сябе на сваёй зямлі—няма.

На Беларусі, аднак, ужо ёсьць дастаткова вялікая колькасьць свабодных людзей і тых, што ўсталі з каленяў. Трэба сказаць гэтым людзям: «Мужайцеся!» Бо ў самы бліжэйшы час яны могуць стаць сьведкамі зьдзеку пачкі ўчарашніх зданяў мінулага, што засталіся пры ўладзе,—зьдзеку з Бацькаўшчыны, незалежнасьці, мовы і свабоды. Пад рогат «абраньнікаў народа» і ададрэньне «простых людзей» будуць распраўляцца з грамадзянствам дзяржавы (уводзіць «двайное», як у СССР), з дзяржаўнасьцю беларускай мовы (юрыдычна замацоўць расейскую). Пры пасьпяховым абалваньваньні гатовага зьмірыцца з усім насельніцтва да канца 1993 года Беларусь як дзяржава можа быць фактычна ліквідавана пенсіянерамі і наменклатурнымі камуністамі, захаваўшы пакуль толькі фармальныя атрыбуты самастойнасьці. Вось тады і пачнецца самае жахлівае, асабліва для аматараў кілбасы.

У мяне не выклікае сумненьня, што ў такой сітуацыі, думаючы пра лепшае, трэба заўсёды быць гатовым да горшага і рыхтавацца да яго сур'ёзна і дзеляліта, усімі спосабамі, сродкамі і думкамі, памятаючы Купалу:

Гэта бітва ідзе сусьветна
Між сьвятлом і
апраметнай.

---

*У мясцовых філіях*

## Непасрэдна да главы дзяржавы

Віцебская гарадская філія БСДГ прыняла зварот да Старшыні Вярхоўнага Савета С. Шушкевіча з нагоды сістэматычных і нахабных парушэнняў прадстаўнікамі мясцовых уладаў законаў аб уласнасці, аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы.

Адной з прычынаў такога становішча, на думку грамадоўцаў, з'яўляецца адсутнасць некаторых важных, але дагэтуль не прынятых законаў.

Пагэтаму віцебскія сацыял-дэмакраты прапануюць спікеру парламента скарыстаць канстытуцыйнае права і ўнесці на разгляд чарговай сесіі Вярхоўнага Савета законы аб дзяржаўнай службе і аб барацьбе з карупцыяй, якія даўно ўжо павінны былі працаваць на карысць нашага грамадства.

К. СТУСЬ.

## Пра вынікі і планы

Адбылося чарговае пасяджэнне Віцебскай гарадской філіі Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. На ім абмеркаваны некаторыя вынікі працы сацыял-дэмакратаў між апошнімі сходамі.

Прысутныя станоўча ацанілі выступ прадстаўніка Грамады за «круглым сталом» палітычных арганізацыяў, які мясцовае тэлебачанне паказала ў красавіку. Сацыял-дэмакраты спадзяюцца, што ім зноў удасца выказаць свае ідэі на абласным ТБ.

Грамадоўцы праслухалі інфармацыю пра падзеі апошніх тыдняў у горадзе і краіне, запланавалі працу філіі на бліжэйшы тэрмін.

М. КАЛІНОЎСКІ.

## Уся справа ў кіраўніку!

4 траўня прайшла нарада прадстаўнікоў каардынацыйных радаў Віцебскіх абласной дый гарадской арганізацыяў АДПБ. На ёй абмеркаваны пытанні дзейнасці гарадской арганізацыі, і ў прыватнасці працы яе цяперашняга кіраўніка.

Частка прысутных запатрабавала перавыбараў старшыні арганізацыі, матывуючы гэтае тым, што кіраўнік аб'яднаных дэмакратаў горада з моманту свайго абрання на пасаду (2 месяцы таму) практычна нічога не зрабіў.

Некаторыя з удзельнікаў нарады зацікавіліся прычынамі, з-за якіх кіраўнік не працаваў. Аказалася, што ён не змог актыўна падключыцца да дзейнасці па сямейных абставінах. У бліжэйшы час старшыня мяркуе прыступіць да выканання сваіх абавязкаў. Аўтаматычна пытанне аб новым кіраўніку было знятае. Аднак віцебскія сябры АДПБ вырашылі вярнуцца да аналізу работы кіраўніцтва праз пэўны час.

Нарада абмеркавала некаторыя іншыя пытанні, у прыватнасці, удзелу мясцовай філіі партыі ў святкаваннях Дня Перамогі.

М. ПЯТРОЎСКІ.

## Зарэгістраваны

Выканкам гарадоцкага райсавета разгледзеў заявы і паставіў на ўлік Гарадоцкую Раду Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны і Гарадоцкую суполку Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады.

Ю.Т.

## БЕСТСЕЛЕР САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫІ

Накладам 800 асобнікаў выйшла даўгачаканая сябрамі й прыхільнікамі БСДГ кніжка з «Праграмай Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады». Яна распаўсюджваецца праз мясцовыя філіі партыі.

М. КАЛІНОЎСКІ.

# «ПРЫХВАТЫЗАЦЫЯ» ПА-ВІЦЕБСКУ

**У прошлым нумары мы апублікавалі падборку матэрыялаў па мінулай сесіі гарадскога Савета. Сёння мы працягваем пачатую размову.**

## Новая мятла па-старому мяце

«З заўтрашняга дня пачнём праводзіць прыватызацыю як належыць па закону і галосна на конкурснай аснове праз аўкцыёны»,—такімі словамі пераконваў дэпутатаў Віцебскага гарадскога Савета новы яго старшыня В. Неушаў перад тым, як дэпутаты павінны былі зацвердзіць вынікі прыватызацыі, праведзенай яшчэ пры былым старшыні М. Федарчуку. «Ну, а тое, што было прыватызавана ў папярэднія два гады выканаўчым камітэтам, нікуды не дзенешся—неабходна зацвердзіць»,—дадаў старшыня.

І дэпутацкі корпус, які спачатку абураўся тым, што тая прыватызацыя не на карысць гарадскому бюджэту (некаторыя нават параўноўвалі з «прыхватызацыяй» вузкім колам асобаў, дзе галоўны прынцып «ты мне, я—табе») моўчкі здаўся.

Спадар Неушаў хуценька выкарыстаў замінку і прапанаваў па пунктах зацвердзіць праведзены па заніжанаму кошту продаж дзяржаўнай маёмасці. Адбылося галасаванне. Два лічыльнікі падчас яго колькасці галасоў «за» не лічылі. Гэтых галасоў было крыху болей, чым «супраць» ці «ўстрымаўся». Але не заўжды яны нават складалі палову ад колькасці прысутных дэпутатаў, бо шмат народных выбраннікаў сядзела і не ўдзельнічала ў галасаванні. Відаць, сумленне не дазваляла ім падтрымліваць расцягванне народнай маёмасці, а падняць руку «супраць» не хапала мужнасці.

У вядзенні сесіі адчувалася спрактыкаваная рука прайшоўшага вывучку камандна-адміністратыўнай сістэмы новага кіраўніка горада, які ў гэтым плане ні ў чым не ўступаў свайму папярэдніку, а ў нечым нават пераўзыходзіў яго.

Папярэднія, перад сесіяй, запісы на выступленне і запіскі ў час яе работы да старшыні з боку прысутных на ёй прадстаўнікоў дэмакратычнай грамадскасці, якія прасілі даць слова, ім ігнараваліся і нават не ставіліся перад дэпутатамі на галасаванне. Не дадзена было нават выказацца ў раздзеле «Рознае», які праведзен быў у спрынтарскім тэмпе. Старшыня адлічваў (як перад стартам) хвіліны да заканчэння сесіі, каб, відаць, не даць магчымасці апомніцца тым, хто сумняваецца ў правільнасці рашэння альбо каб не дай божа, хто пачаў крытыкаваць.

Хочацца запытацца: навошта збірался на сесію дэпутаты? І дзе ж мажлівасць грамадскасці ўдзельнічаць у вырашэнні канкрэтных пытанняў, гарантаваная законам?

Вельмі ж ужо нагадвала сесія гарсавета тыя сесіі дзесяцігадовай даўнасці, якія зацвярджалі раней вырашанае за іх пленумамі кампартыі.

**У. ПЛЕШЧАНКА.**

## Умоўны рэфлекс

Многія, пэўна, памятаюць са школьных урокаў біялогіі выпадак з канём, што шмат гадоў вазіў у заапарку дзяцей па кругу і якога так і не змаглі прымусіць прайсці па гарадскім вуліцам—ён увесь час зварочваў і ішоў па кругу. У яго выпрацаваўся ўмоўны рэфлекс.

Так і нашыя Саветы. За 70 гадоў яны прызвычаіліся быць шырмай КПСС. Сем дзесяцігоддзяў дэпутаты паслухмяна галасавалі за тое, што ім прапаноўвалася. І вось ужо няма КПСС, але застаўся ўмоўны рэфлекс.

Нядаўна гарадскі Савет прыняў бюджэт Віцебска на 1993 год. Калі, канешне, увогуле можна назваць бюджэтам тое, што прымалася. Бо напярэдадні сесіі дэпутаты атрымалі кніжачку у 35 старонак тэксту, у якой змяшчаліся і справаздача аб выкананні бюджэту за 1991 год (звярніце ўвагу: у пачатку 93-га зацвярджаюць справаздачу выканання бюджэту за пазамінулы год), і прагноз развіцця на бягучы год, і сам гарадскі бюджэт на гэты год.

Калі я быў у гасцях у Ергана Мюлера, дэпутата 30-тысячнага нямецкага горада Нінбурга, да яго па пошце прыйшоў праект бюджэту Нінбурга на 1993 г. То быў часопіс таўшчынёю ў 300 старонак і фарматам разы ў два больш таго, што атрымалі нашыя дэпутаты. І сапраўды, хто валодае інфармацыяй, той валодае ўладай. Але здзіўляе не тое, што нашым дэпутатам «доступ да інфармацыі не забаронены, але й не дазволены», як удала выказаўся на нядаўняй канферэнцыі па самакіраванню адзін з дэпутатаў аблсавета, а тое, што такі стан рэчаў поўнасцю іх задавальняе. А галоўнае, дзеля чаго мы выбіраем дэпутатаў, якраз у тым і заключаецца, каб яны вызначылі палітыку развіцця места і зацвердзілі бюджэт, каторы зробіць гэтую палітыку рэальнасцю.

Не менш надзвычайна і тое, што адбылося на апошняй сесіі гарсавета з зацвярджэннем прыватызацыі некаторых аб'ектаў камунальнай маёмасці. Уявіце сабе, што Вы здалі сваю кватэру кватарантам. А праз год яны прыходзяць да Вас і заяўляюць, што мы, маўляў, Вашую кватэру год назад прадалі, зацвердзіце, калі ласка, дагавор купліпродажу. Менавіта ў такой сітуацыі і апынуліся нашыя народныя выбраннікі. Нармальнай рэакцыяй было б разарваць «ліпавы» дагавор, выгнаць нахабных кватарантаў ды распачаць працэс продажу нанова, калі такім будзе жаданне гаспадара. Але не так вядзе сябе конь, што 70 гадоў хадзіў па кругу.

Пагэтаму, шаноўныя выбаршчыкі, у наступны раз, калі будзеце выбіраць дэпутатаў, спярша пераканайцеся, здольны і ці хоча кандыдат у дэпутаты самастойна прымаць рашэнні, а ўжо потым ці будуць гэтыя рашэнні выражаць Вашыя інтарэсы. Бо без першага другое не мае аніякага сэнсу.

**Старшыня абласной арганізацыі АДПБ**
**В. ЖУРАКОЎСКІ.**

## ЗВАРОТ

### ПАЛІТЫЧНЫХ ПАРТЫЙ І РУХАЎ ДЭМАКРАТЫЧНАГА НАКІРУНКУ ДА ГРАМАДСКАСЦІ ВІЦЕБШЧЫНЫ, ДА ДЭПУТАТАЎ УСІХ УЗРОЎНЯЎ І СУПРАЦОЎНІКАЎ ПРАВААХОЎНЫХ ОРГАНАЎ

На працягу некалькіх апошніх гадоў на Віцебшчыне набылі вялізныя памеры крадзёж дзяржаўнай маёмасці, злоўжыванне службовым становішчам з боку розных кіраўнікоў.

Пры выканаўчай уладзе ствараюцца камерцыйныя прадпрыемствы, у якія ўваходзяць стаўленікі гэтых кіраўнікоў. Праз іх раскрадаецца значная частка грашовых сродкаў.

Ігнараванне нават недасканалых законаў—характэрная ўласцівасць пануючай большасці наменклатуры ў Вярхоўным і мясцовых Саветах. Пракуратура, суд, МУС і КДБ знаходзяцца ў поўнай залежнасці ад посткамуністычнай наменклатуры.

Апошняя укладвае нарабаваныя грошы ў будаўніцтва дарагіх катэджаў. Яна ж да таго ў дадатак атрымлівае ільготныя крэдыты. І гэта тады, калі валодае добраўпарадкаваным жыллём. І гэта ў той час, калі простаму чалавеку, які не мае ўласнага кутка—адмаўляюць у крэдытах на пабудову жылля. Наменклатура набывае па заніжанаму кошту нерухомасць і іншыя матэрыяльныя сродкі.

Усё вышэйсказанае не аднойчы пацвярджалася публікацыямі ў друку не толькі мясцовай прэсы, але й рэспубліканскай. Аднак наменклатуршчыкам як з гуся вада. Яны імкнуцца стварыць рынак для свайго вузкага кола. Іхняя мэта—заняць у ім пануючае становішча, як некалі займала кампрадорская буржуазія ў былых калоніях.

Тыя парушэнні наменклатуршчыкаў, што выяўляюцца сумленнымі супрацоўнікамі праваахоўных органаў, дэпутаты ўсіх узроўняў бяруць пад сваю ахову, а суды ды пракуратура адмаўляюць прызнаваць парушэнні законаў з іх боку.

У прадстаўнікоў палітычных партый і рухаў дэмакратычнага накірунку, сумленных грамадзян зараз няма іншага выйсця, як стварыць грамадскую камісію дзеля кантроля за раскрадальніцкай дзейнасцю апарата. Бо ўлада наменклатуры не вечная, а народ Беларусі павінен ведаць раскрадальнікаў.

Галоўная задача камісіі—фіксаванне кожнага выпадку крадзяжу, злоўжывання службовым становішчам з боку адказных асоб, інфармаванне насельніцтва аб гэтых выпадках.

Мы заклікаем дэпутатаў і супрацоўнікаў праваахоўных органаў, усіх грамадзян—тых, каму не абыякавы лёс сваёй Бацькаўшчыны, садзейнічаць працы камісіі.

**Нашы тэлефоны: 37-28-44, 37-35-06.**

**Заяву падпісалі:**

**Ад клуба за дэмакратычныя выбары** Б. ХАМАЙДА, У. ПАДГОЛ.
**Ад БНФ:** М. ПАЎЛАЎ, У. ПЛЕШЧАНКА.
**Ад АДПБ:** В. ЖЫГУЛОЎ, І. ГЛАЗУНОЎ.
**Ад НДПБ:** А. ФРАЛЕНКА.

*З неафіцыйных крыніц*

### Ці так!

**Як стала вядома рэдакцыі, будынкі дзіцячых садкоў па вул. Чайкоўскага, 6 і па вул. Лазо, 76 прыватызаваны фірмаю «ЛМ+МК», а дом № 4 на вул. 2-й Фрунзе—«Віцебскзнешбудам». «Дом малака» на прасп. Будаўнікоў перайшоў у трэція рукі.**

**Цікава, ці сапраўды гэта так!**

# ЗАЯВА
## Выканкама цэнтральнай Рады БСДГ

На нечарговай XI сесіі Вярхоўны Савет прагаласаваў за далучэнне нашай краіны да Пагаднення «Аб калектыўнай бяспецы», якое падпісана Расіяй, Арменіяй, Казахстанам, Кыргызстанам, Таджыкістанам і Узбекістанам.

Як вядома, войскі шэрагу гэтых краін вядуць ваенныя дзеянні ў розных рэгіёнах былога СССР. Далучэнне да ваеннага саюза з ваюючымі краінамі альбо з краінамі, дзе існуе палітычная нестабільнасць, з'яўляецца небяспечным і авантурным.

Ігнараванне ўласнай заявы аб імкненні да нейтральнага статуса Беларусі робіць палітыку Вярхоўнага Савета непаслядоўнай і непрадказальнай, што, безумоўна, выкліча насцярожанасць да Беларусі з боку еўрапейскіх краін і нанясе шкоду стабільнасці на кантыненце.

Дарэмна спадзявацца, што ўступленне ў ваенны саюз будзе спрыяць далейшаму існаванню нашага гіганцкага ваеннапрамысловага комплексу, што Расія будзе несці за нас ваенныя выдаткі і забяспечваць ваенныя заказы для беларускіх прадпрыемстваў.

Расія не мае сродкаў працягваць гонку ўзбраенняў. Танкі і ракеты не заменяць хлеба і масла, таму, як для Расіі, так і для Беларусі, структурная перабудова эканомікі і, перш за ўсё, канверсія ваенных прадпрыемстваў з'яўляецца непазбежнай. Пры гэтым нешматлікія ваенныя заказы будуць размешчаны ў асноўным на расійскіх заводах. Маючы праблему беспрацоўя, Расія будзе ствараць і захоўваць працоўныя месцы не для беларусаў, а для ўласных грамадзян. Што датычыць нармалізацыі ўзаемных паставак і паляпшэння эканамічных сувязяў, для гэтага непатрэбны ваенны саюз, дастаткова эфектыўна працуючых эканамічных пагадненняў.

Нельга лічыць сур'ёзнымі запэўніванні ў тым, што Беларусь зможа ўнесці ў Пагадненне агаворку аб забароне пасылкі нашых вайскоўцаў у «гарачыя кропкі». Усе агаворкі сумесна абмяркоўваюцца ўдзельнікамі Пагаднення і зразумела, што ніводная дзяржава-ўдзельніца не зацікаўлена ў прадастаўленні Беларусі нейкіх асаблівых ільгот.

Яшчэ больш авантурным і недарэчным выглядае спадзяванне з дапамогай ваеннага саюза адрадзіць у той ці іншай форме былы СССР. Мы ўжо ніколі не вернемся ні да ўнітарнай таталітарнай дзяржавы, ні да ўнітарнай мілітарызаванай эканомікі.

Грамада цалкам падтрымлівае пазіцыю Старшыні Вярхоўнага Савета С. С. Шушкевіча і ягоную ініцыятыву па правядзенню рэферэндуму з фармулёўкай: «Ці падтрымліваеце вы дзяржаўны нейтралітэт Рэспублікі Беларусь, які прадугледжвае адмаўленне ад ваенна-палітычных саюзаў з іншымі краінамі і іх аб'яднаннямі?».

Мы салідарны з групай народных дэпутатаў, якая разгарнула ў Вярхоўным Савеце збор подпісаў у мэтах правядзення рэферэндуму.

Заклікаем сяброў Грамады, усіх грамадзян Беларусі арганізаваць збор подпісаў у падтрымку правядзення ўсенароднага рэферэндуму па пытанню аб нейтральным статусе беларускай дзяржавы.

**Выканкам Цэнтральнай Рады БСДГ.**

*Лісты чытачоў*

# РЭНАМЕ РЭАНІМЭ

Як жа часта нас уводзяць у зман назвы і саманазвы, калі ім не адпавядае змест, сутнасць з'явы, твора, арганізацыі. Памятаеце фільм з удзелам Чарлі Чапліна «Ціхая вуліца», дзе на гэтай вуліцы дужыя малойцы мясілі адзін аднаго кулакамі? Ці як беднага Бураціна падманула назва «Поле Цудаў» (у Краіне Дурняў)?

Пачуў я, што на зямлі беларускай Славянскі Сабор будуюць. Прыемна цешыла гэтая навіна. Значыцца, будзе ў нас гэткая агульнаславянская-агульнахрысціянская, праваслаўна-каталіцка-уніяцка-пратэстанцкая Мекка, куды паломнікі цугам пацягнуцца з Балгарыі, Македоніі, Польшчы, Расіі, Сербіі, Славакіі, Украіны, Чарнагорыі, Чэхіі... Гэта карысна хаця б з меркаванняў міжнароднага турызму, не кажучы ўжо пра з'яднанне славянскага люду. Праўда, мае знаёмыя грузін з яўрэем адразу скасавурыліся, чаму гэта Сабор славянскі, а не агульнабеларускі; у саборы тым ім месца не было—так з назвы вынікала. Агледзеў я тую прэтэнцыёзную арганізацыйную будыніну і змеціў, што гаворка не пра ўсіх славян, а толькі пра ўсходніх. У рэшце рэшт скеміў я, што ляпіў той сабор нейкі няўмека, а то і свядомы шкоднік. Таго й чакай, кумпалы абваляцца ды ўсіх вернікаў-легкавернікаў пазабіваюць. Бо на справе Славянскі Сабор не за славян і нават не за беларусаў, а за рускіх і беларускіх, прычым толькі тых, хто прагне рэанімацыі Расейскай імперыі. А хто думае не так, той проста жыд. Ну, як?

Нешта падобнае я адчуў, прачытаўшы ў «Віцьбічах» за 15.04 «Обращение рабочего совета». «...Совет городского объединения рабочих «Трудовой Витебск» проводит 17 апреля... сбор подписей в поддержку справедливых требований своих товарищей по классу. Скажем, мол, решительное «да» возрождению СССР».

Прачытаў і засмуціўся. Спадар чытач, Вам не здаецца, што саманазва «Трудовой Витебск» гучыць у прыхаванай форме абразліва для Вас? Хай Вы працуеце сумленна, потам зарабляеце грошыкі, а вось як не падзяляеце неакамуністычных перакананняў—дык і не працоўны Вы і ў «Трудовой Витебск» Вас не возьмуць. Усе працавітыя, трэба думаць, даўно ўжо там, а мы ўсе—абібокі.

Дай, думаю, пагляджу, колькі працоўных у Віцебску. У суботу тралейбусам спяшаюся да прызначанага месца сустрэчы. Сталага веку, але блазнюк з зацухмоленым партфелем і відавочнымі псіхічнымі адхіленнямі не мог дачакацца прыпынку «Плошча Свабоды» ды імпэтна агітаваў пасажыраў за «адзіны, магутны». Нейкі экзальтаваны дзядок тураваў яму і зацята гамзіў: «Жыды прадалі Расію». Ніхто ім слова не сказаў, хаця ў гэтым супольным delirium tremens было шмат зневажальнага. Калі, нарэшце, дзверы адчыніліся, гэтыя двох ірванулі на плошчу як з нізкага старту. Але...

Але што гэта? Ля трыбуны стаяла не больш як дваццаць чалавек, адны і тыя ж твары і стварэнні на ўсякіх і ўсялякіх зборышчах такога кшталту. Над галовамі мітынгоўцаў туляліся сцягі былых СССР і БССР і... манархічны сцяг дынастыі Раманавых. Я азірнуўся на тралейбус і не знайшоў там шыльды «Машына часу». Дзіўна... Здавалася, сілы цемры розных эпох спецыяльна сабраліся ў гэты час на плошчы Свабоды (адчуваеце?), каб апаскудзіць віцьбічам перадсвяточны настрой.

Вось і разбярыся ў гэтай блытаніне. «Трудовой Витебск» пад манархічным сцягам? Як гэта стасуецца з імперыялізмам, прыватнай уласнасцю, эксплуатацыяй чалавека чалавекам? Тут недастаткова глыбакадумна прабурчэць «Гэта буржуазна», тут хаваецца нешта саўкова-ірацыянальнае, што немагчыма спасцігнуць здаровым розумам.

То не трэба й намагацца. Нас чарговы раз заблыталі саманазвы. Кожная дробная групоўка з тых, што ўтвараюць шумную антыдэмакратычную хеўру, мае агульнае «рэнаме» ў тым сэнсе, што песціць надзею на «рэанімэ» Савецкага Саюза (Расейскай імперыі) і злосна ненавідзіць усё беларускае. Замест таго, каб тлуміць сумленным грамадзянам галовы, гэтым таварышам і «господам» след было б аб'яднацца пад шыльдай «Антыбеларуская партыя здрады». Гэта б адпавядала існуючаму стану рэчаў.

А я, са свайго боку, пачынаю збіраць подпісы за адраджэнне Рымскае Імперыі. Буду рады, калі адгукнуцца аднадумцы наконт імперыі Аляксандра Македонскага ды Арабскага Халіфату.

**Уладзімір СЛАБІН.**

# ЖЫВЁМ МІНУЛЫМ?

Калі давядзецца трапіць у Сянно, то, думаю, у вас абавязкова з'явіцца ўражанне, што вы падарожнічаеце ў мінулае. Інакш як жа растлумачыць тое, што дом № 4 па вул. Карла Маркса ўпрыгожвае вялізны плакат, на якім жанчына, якая, мусіць, сімвалізуе Беларусь, трымае герб існуючай ужо БССР? Пабляклі фарбы, але на стужцы, якая абвівае калоссе, выразна чытаецца заклік **пролетариям всех стран соединяться.**

Ды што казаць пра гэта, калі на суседнім чатырохпавярховым будынку, на якім развяваецца бел-чырвона-белы сцяг, над уваходам вісіць той жа самы герб БССР, вытрыманы ў змрочным чорным колеры.

Няхай стаяць ля будынка мясцовай дзіцячай музычнай школы (былы райкам КПБ) бюстры Карлу Марксу і Уладзіміру Леніну і ў дні сваіх святаў мясцовыя бальшавікі прыносяць сюды кветкі. Што ж, кожны кланяецца свайму ідалу. Але вось атрыбутыку варта нарэшце памяняць. Мы ж жывём у незалежнай краіне, якая мае свой герб «Пагоню».

**В. ПЕЧКУРЭНКА.**

# ГАНЬБА

Так, менавіта гэтым словам можна назваць тое, што адбылося на нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Мажліва, для некаторай колькасці жыхароў рэспублікі, даведзеных да адчаю станам сучаснага жыцця, абыякавых да сваёй дзяржавы, да лёсу сваіх дзяцей, факт прыняцця рашэння аб заключэнні ваеннага саюза з Расеяй прайшоў незаўважаным. Але пераважную большасць ён вельмі і вельмі турбуе. Бо вырашаецца лёс дзяржавы, а значыць, і кожнага з нас.

Увесь ход падзей на сесіі прадказваў, што нягледзячы ні на якія довады, прапановы, неакамуністычная большасць у Вярхоўным Савеце ўсё ж вырашыць пытанне на карысць ваеннага саюза. (Шаноўныя чытачы, не блытайце ваенны саюз з былым Савецкім, хоць і там не мёд быў, гэта зусім розныя рэчы! Ваенны саюз—гэта ў першую чаргу мілітарызацыя краіны, гонка ўзбраенняў, а потым смерць, труны на Беларусі, плач і стогны мацярок, дзеці без бацькі, развал эканомікі, бо ваенныя заводы не вырабляюць ні тэлевізараў, ні халадзільнікаў. Ні каўбасу, між іншым). Можа лічыць, гульня ішла і адны вароты. Маўляў, хоць вы (апазіцыя) разбіцеся, як рыба аб лёд, даводзячы нямэтазгоднасць ваеннага Саюза, нават больш, здраду дзяржаве, мы (неакамуністы, «абаронцы народа») зробім па-свойму. Такім чынам, ставіцца чарговая дымавая заслона, каб схаваць поўны крах праводзімай урадам Кебіча палітыкі. Усё гэта яшчэ раз сведчыць аб тым, што і сапраўды, як неаднаразова заяўлялі БНФ, Грамада ды іншыя дэмакратычныя партыі, у нашага ўрада няма мэтанакіраванай канцэпцыі эканамічнага развіцця дзяржавы.

І ўсё ж перамога «чырвона-карычневых» не поўная. На майскай сесіі павінна быць прынята рашэнне аб правядзенні рэферэндуму па мэтазгоднасці заключэння ваеннага саюза. Куды можна ўключыць і пытанне аб уласнасці на зямлю, якую так не хочуць аддаць працоўнаму селяніну нашыя «добразычліўцы».

І вось тады паўстане пытанне аб так званым «нацыяналізме». Зможа народ даўмецца, адчуць нацыянальную самасвядомасць, чалавечую годнасць, устаць з каленяў ды сказаць ваеннаму саюзу «не»,—пойдзем па шляху развіцця Беларускай дзяржавы, уваходжання ў сусветную эканоміку. А не зможа, захлынецца ў жыццёвай віхуры, у пагоні за цэнамі, каўбасой,—адказ адназначны: страта суверэнітэта, дзяржаўнасці, міжнароднага аўтарытэта. У канечным выніку—калонія Расейскай імперыі.

Але ўсё ж хочацца верыць у працавітага, разумнага беларуса. Хоць і вынішчалася ў ім вякамі вера, любоў да свабоды. Хоць і амаль зняверыўся ён у перамогу праўды, але прыроджаная кемлівасць, любоў да Бацькаўшчыны не падвядзе. Здолее народ зразумець, хто імкнецца закабаліць яго, уцягнуць у ваенны саюз з нестабільнай Расеяй. Каб і надалей, седзячы на карку народа, кіраваць пры дапамозе талонаў, купонаў ды іншых падачак. Прасцей кажучы, пры дапамозе «карыта». А хто і сапраўды жадае яму шчасця, добрага, заможнага жыцця ды росквіту краіны ў мірнай супольнасці з суседзямі-народамі.

**Васіль ІГНАЦЕНКА, БСДГ.**

*Пачытайце дзеткам вершы*



На Успенскай горцы. Фота А. Лакатко.

**Анатоль КАРЧЭЎСКІ**

## Дзень Перамогі на Беларусі

Сёння дзень Перамогі—
свята шчасця і слёз.
Тут ля кожнай дарогі
помнік воінам ёсць.

Дзе калісьці ўзлескі
чырванелі ад куль,
зноў квітнеюць пралескі,
нібы вочы дзядуль.

Тых дзядуль, што загінулі
ў тую вайну,
тых дзядуль, што пакінулі
нам і Мір, і Вясну...

**Ягор КАСЯКОЎ**

## Загадка

Ён звярочак вельмі колкі,
Бо на ім тырчаць іголкі.
А як згорнецца ў клубочак,
То не бачна нават вочак.

У яго чатыры ножкі.
Ну, вядома, як у кошкі.
Я здалёк убачыў кошык,
Падышоў, а гэта...

**(Вожык).**

## Вясна ў лесе

У лясок прыйшла вясна,
Сонца добра грэе.
І зялёная сасна
Лепей зялянее.

Зайка скача з асакі
Да зялёнай грушы.
Паліналі два бакі,
І спіна, і вушы.

А мядзведзь глядзіць у бок,
Дзе пчала лятае,
Бо яна нектарны сок
На мядок збірае.

Лось, шукаючы траву,
Абышоў узлескі.
І, схіліўшы галаву,
Цалаваў пралескі.
А ў вавёркі шмат турбот—
Час не для пацехі,
Бо ўжо норы рые крот,
Дзе ляжаць арэхі.

У лясок прыйшла вясна,
На жалейцы грае—
Абудзіла лес яна,
Жыхароў вітае.

## Зайка-агароднік

Сонца ў небе ярка ззяе,
Глебу добра саграваюць,
І на градках ля ракі
Зайка сее агуркі.

І салодкай морквы шмат
Дапамог пасеяць брат.
А суседзі хлеба лусту
Памяняюць на капусту.

А на мокрай глебе пуста—
Будзе там расці капуста.
Хай расада падрасце
І вада ў раку сцячэ.

Зайка лапкі не шкадуе—
Кожны дзень вясной працуе.
І за гэта агарод
Яго корміць цэлы год.

## Дыялог з сумленнем

—Дык дзе твая праўда, братка-беларус, якую шукаем спрадвеку?

—Няма. Адна крыўда навокал ды здзекі.

—А дзе лепшая доля, аб якой ты марыў заўсёды, мой бедны братка-беларус?

—Няма. Толькі нядоля сэрца цісне тугой, абражае галеча.

—Дзе воля твая, беларус, пра што продкі ў песнях спявалі?

—Няма. Кайданы муляюць рукі ды розум да болю.

—Дык чаму ж так няма, запытацца патрэбна?

—У каго запытаць?

—У дзядоў ды бацькоў.

—Што дзяды, што бацькі—у Курапатах ляжаць.

—У старэйшага брата спытай.

—Не да гэтага брату старэйшаму, сварыцца зараз з сястрою.

—Дык спытайся ў матчынай мовы-крыніцы.

—Перасохла крыніца і смага патрэскала вусны.

—Папытайся ў роднай зямлі, на якой нарадзіўся.

—Што зямля, анямела ў пакуце ад жаху Чарнобыля-пекла.

—Дык каго ж запытаць? Паспрабуй ты вось гэта: усіх паноў, спадароў ды таварышаў трэба паслухаць.

—Іх пытаў неаднойчы, ніхто не дае мне адказу.

—Запытаемся разам з табой, а калі не адкажуць, сам сябе запытай: што рабіць і як жыць нам далей.

**Запісаў Алесь КРЫГА.**



Фота А. Шульмана

Хітрая.

Іван ЛАЗУКА

## Да прамоўцаў

Звон пусты тут і там,
Толькі словы ды словы.
Да чаго ж даўно нам
Паабрыдлі прамовы.

Мкне любы дэлегат,
Ці які там начальнік,
За трыбунаю стаць,
Пыхкаць, быццам той чайнік.

Дэпутатаў у нас
Развялося задужа,
Паспрабуй, дай адказ,
Хто народу з іх служыць?

І прашу я ў адчаі,
Што ніколі не нова:
Карацейшымі б сталі
Усе вашы прамовы.

Колькі можна мянташыць
Языкамі ў сталіцы,
Бо народ, вам заўважу,
Зубы склаў на паліцу.

І што я, не лічыце,
Вам наношу абразу,
Меней вы гаварыце,
Даўжэй будуць каўбасы.

*Навіны Беласточчыны*

### Занадта многа

Дырэкцыя Белавежскага нацыянальнага парка вырашыла прадаць частку зуброў, што жывуць у пушчы. Кошт вызначаны немалы—ад 50 да 100 тысяч долараў за жывёліну. Зараз на замежных (польскіх) абшарах Белавежскай пушчы знаходзіцца каля 230 зуброў. А гэта, на думку кіраўніцтва парка, занадта многа.

**Ю. С.**

## Рэпертуар Беларускага тэатра «Лялька»

**12, 13, 14 траўня** «Папялушка»
**17 і 18 траўня** «Чароўны заапарк»

*Пачатак спектакляў у 10 гадз. 30 хв. і а 12 гадз. 30 хв. у абласной філармоніі.*

*Даведкі па тэл.:* **36-90-77, 36-29-22.**

## У кінатэатрах горада з 12 па 16 мая

**«Беларусь»**
**«Амерыкэн бой»** (Расія). 9.40, 11.50, 14.00, 16.10, 18.20, 20.30.
**«Развітальныя гастролі»** (малая зала). 10.00, 12.30, 14.30, 16.30, 17.50, 20.00.
Аўтаадказчык 14028.

**«Спартак»**
**«Жамчужына Ніла»** (ЗША). 10.00, 12.00, 14.00, 16.00, 17.50, 19.40, 21.30.
Аўтаадказчык 365121.

**«Кастрычнік»**
**«Маленькі гігант вялікага сексу»** (Расія). 9.30, 11.00, 12.30, 14.05, 15.40, 17.15, 18.50, 20.20.
Аўтаадказчык 365544.

**«Брыганціна»**
**«Сценка на сценку»** (ЗША). 14.50, 16.50, 18.50, 20.50.
**«Татальнае сачэнне»** (Францыя). 10.30, 15.10, 17.00, 19.00, 21.00.
**Зборнік мультфільмаў.** 9.00, 10.10, 11.20, 12.30, 13.40.
**«Акрабат на Поўначы».** 13.45.
**«Яшчэ адна ноч Шахеразады».** 9.10, 12.20.
Аўтаадказчык 18179.

**«Мір»**
**«Вайна ніндзя»** (ЗША). 9.50, 11.25, 13.00, 14.35, 15.45, 17.20, 18.55, 20.25.
**«Імперыя страсці»** (Францыя—Японія). 10.10, 12.10, 14.40, 17.00, 19.30.
Аўтаадказчык 362223.

**«Усход»**
**«Красуня».** 14.00, 16.10, 18.20, 20.20.
Аўтаадказчык 332936.

**Відэатэатр «Віцьба»**
Аўтаадказчык 14945.



## Вясёлы глобус

*—Ну, а зараз пойдзем да мяне дамоў?—спытаў ён пасля гадзіннага сядзення на лаўцы.*

*—Уласна кажучы, я не хацела, але цяпер ты мяне ўгаварыў.*

* * *

*—Што скажа твая маці аб нашых заручынах?*

*—Не турбуйся, Генры, мама радуецца кожны раз.*

## Але

«Мы не вынаходзім ровара і ня лічым сябе калюмбамі»,—такія словы прагучалі ў перадсвяточную суботу ў Наваполацку. Так, яны не адкрылі Амерыкі і не сталі вынаходнікамі. Але...

...але менавіта яны, гэтыя 16-ць, сталі заснавальнікамі і першымі сябрамі Таварыства Вольных Літаратараў. Вольных ад «манапольнай літаратуры... ад чыёйсьці літасьці ў вырашэнні літаратурных лёсаў.

Лёсаў маладых і не зусім, сталых і пачаткоўцаў, перакладчыкаў і паэтаў, драматургаў і празаікаў. Розных.

Але вольных.

**Назіральнік**

P.S. Ідэалагічную (ад слова «ідэя») заяву ТВЛ мы надрукуем у наступным нумары.

**Ваш Наз-к.**

*Мастацкія фільмы на рэшту тэлетыдня*

## Серада, 12 мая

**Беларускае тэлебачанне**
9.40 і 21.35. «Мачаха».
13.40. «Насланнё».
**Канал «Астанкіна»**
8.35 і 18.05. «Проста Марыя».
11.20. «Батальёны просяць агню». 3-я і 4-я серыі.
**Канал «Расія»**
10.50 і 19.25. «Санта-Барбара».
**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**
8.05. «Мая другая мама».
12.10. «Я—Бяроза».
23.00. «Формула памяці».

## Чацвер, 13 мая

**Беларускае тэлебачанне**
9.45 і 21.35. «Мачаха».
14.15. «Рэгіна».
**Канал «Астанкіна»**
8.45 і 18.00. «Проста Марыя».
11.20. «Пад дахамі Манмартра».
**Канал «Расія»**
11.10 і 19.35. «Санта-Барбара».
13.25. «Расстанемся, пакуль добрыя».
**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**
8.25. «Жыццё па ліміту».
21.00. «Мая другая мама».

## Пятніца, 14 мая

**Беларускае тэлебачанне**
9.30. «Мачаха».
13.40. «Пачатак».
21.35. «Абарона імперыі» (Вялікабрытанія).
**Канал «Астанкіна»**
8.20 і 15.10. «Горад майстроў».
11.50. «Сабачае сэрца».
20.55. «Двайная стаўка» (Францыя).
**Канал «Расія»**
10.55. «Санта-Барбара».
16.55. «Сасланы на планету Зямля». 10-я серыя.
19.25. «Маці Крулей» (Польшча).
**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**
8.05. «Мая другая мама».
13.00. «Нябесны ціхаход».
23.00. «Капітан Апачы».

## Субота, 15 мая

**Беларускае тэлебачанне**
8.20. «Абарона імперыі» (Вялікабрытанія).
11.50. «З робатамі не жартуюць».
15.05. «Танцпляцоўка».
21.35. «Мілы друг» (Аўстрыя, Францыя).
**Канал «Астанкіна»**
12.30. «У агні броду няма».
18.50. «Бездакорная дваццатка» (ЗША).
20.40. «Апошнія дні Пампеі» (ЗША). 2-я серыя.
**Канал «Расія»**
11.05. «Зігзаг цудаў».
19.25. «Ханя» (Польшча).
**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**
8.20. «Капітан Апачы».
12.05. «Чапаеў».
20.40. «Мая другая мама».

## Нядзеля, 16 мая

**Беларускае тэлебачанне**
9.25. «Мачаха».
21.25. «Чырвоная пустыня» (Італія, Францыя).
**Канал «Астанкіна»**
11.45. «Прыгоды чорнага Прыгажуна».
**Канал «Расія»**
11.05. «Шумны дзень».
20.10 і 22.30. «Жаклін Кенэдзі» (ЗША). 1-я і 2-я серыі.
**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**
16.05. «Афганскі злом».




Заснавальнік

*Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»*

**Галоўны рэдактар Барыс ХАМАЙДА**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Валянцін АРЛОЎ**
**Хрыстафор ЖАЛЯПАЎ**
**Васіль ІГНАЦЕНКА**
**Юры ЛАЎРЭНАЎ**
**Ларыса МІХНЕВІЧ**
**Міхась ПАЎЛАЎ**
**Уладзімір ПЛЕШЧАНКА**
**Леанід ТАМАРОВІЧ**
**Ігар ЦІШКІН**

Мастак **Р. Клікушын.**
Фотаздымкі **М. Міхайлава.**
**Адрас рэдакцыі:** 210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17.
**Тэл.** 37-35-06, 37-28-44.

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор ды дакладнасць пададзеных фактаў, цытатаў, гаспадарча-статыстычных даных, уласных імёнаў, геаграфічных назваў і іншых звестак. А таксама за тое, што ў матэрыялах пададзены звесткі, якія з'яўляюцца дзяржаўнай ці спецыяльна ахоўваемай законам таямніцай.**

**Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара.**

**Пры передруку спасылка на «Выбар» абавязковая.**

Рукапісы не вяртаюцца й не рэцэнзуюцца.

**Бягучы рахунак рэдакцыі № 200700962 у Віцебскім камерцыйным банку (Віцкамбанк). Код (МФО) банка 150801701.**

**Газета набраная і надрукаваная афсетным спосабам у Віцебскай узбуйненай друкарні імя Камінтэрна: г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6.**

**Выходзіць штотыднёва па сярэдах**

Нумар падпісаны да друку 11.05.1993 г. у 17.15.
Наклад 1500 экз.

**Цана 3 руб.**